# КРЫНІЦА

№3 Травень, 2009 www.bchd.info


# КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ АД БХД

**23 траўня ў Менску адбудзецца Нацыянальная Канфэрэнцыя БХД, прымеркаваная да 92-й гадавіны ўтварэньня Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці. На Канфэрэнцыі мае быць выбраны кандыдат на бліжэйшыя прэзідэнцкія выбары ад беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў.**

**Навошта? Хто прэтэндэнты? Ці будзе наш кандыдат удзельнічаць у выбарчай кампаніі да канца, ці можа зьняцца на карысьць больш моцнага? Адказы на гэтыя пытаньні – галоўная тэма сёньняшняй «Крыніцы».**

Найперш, кожная палітычная сіла нацыянальнага маштабу проста абавязаная ўдзельнічаць у найважнейшай кампаніі бліжэйшых гадоў – тым больш, калі гэтая сіла імкнецца зрабіцца вядучай у краіне. Ключавы крок – вылучэньне свайго кандыдата (асабістай альтэрнатывы). Задача-мінімум для такога кандыдата – дамовіцца зь іншымі дэмакратычнымі прэтэндэнтамі аб супольных дзеяньнях, прадстаўляць партыю ў перадвыбарчы час, адстойваць яе каштоўнасьці й інтарэсы. Задача-максімум (пры добрым раскладзе) –ісьці да канца і перамагаць.

Яшчэ ў восені мінулага года Аргкамітэт БХД вызначыў, што кандыдатам у прэзідэнты Беларусі ад Партыі можа стаць сябра БХД, уцаркоўлены хрысьціянін, які будзе мець не менш як 35 гадоў на момант кампаніі (канец 2010-пачатак 2011 гг.) і абавязуецца падпарадкоўвацца рашэньням Партыі. На сёньня ўдзельнічаць у вылучэньні вырашылі тры чалавекі: сустаршыня БХД, кіраўнік Менскай гарадзкой арганізацыі, праваслаўны Віталь Рымашэўскі, сустаршыня БХД, кіраўнік Кобрынскай гарадзкой арганізацыі, бацька пяцёх дзяцей пратэстант Георгій Зьмітрук, і кіраўнік антыалькагольнай кампаніі, бацька сямёх дзяцей, пратэстант Леанід Скарабагаты. (Сустаршыні БХД Паўлу Севярынцу толькі 32 гады, і ён яшчэ ня можа вылучацца ў прэзідэнты паводле ўзросту). Усе тры прэтэндэнты прадстаўлены сёньня ў нашай газэце на старонках 5-7.

Цэнтральнай задачай кандыдата ад БХД будзе дамовіцца аб вылучэньні сярод дэмакратычных кандыдатаў адзінага, найбольш моцнага лідэра, якога б падтрымалі ўсе астатнія. Паводле апытаньня на Аргкамітэце і Нацыянальнай Радзе БХД, найбольшай папулярнасьцю сярод іншых дэмакратычных кандыдатаў у прэзідэнты карыстаюцца Аляксандр Мілінкевіч і Зянон Пазьняк, меншай – Аляксандр Казулін і Мікалай Статкевіч.

**На працягу траўня мясцовыя суполкі БХД павінны вылучыць дэлегатаў на Нацыянальную Канфэрэнцыю БХД (квота – 1 дэлегат на 10 сябраў партыі БХД). 23 траўня на Канфэрэнцыі таемным галасаваньнем будзе выбраны кандыдат у прэзідэнты Беларусі ад БХД. Пераможца мусіць атрымаць 50% + 1 голас дэлегатаў. Пры патрэбе можа быць прызначаны другі тур.**

**Беларускія хрысьціянскія дэмакраты, вызначайцеся!**

*Рэдакцыя*



# БХД адмовілі ў рэгістрацыі

**Сябры аргкамітэту па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» 16 красавіка атрымалі адмоўны адказ з Міністэрства юстыцыі.**

Асноўныя прэтэнзіі Міністэрства юстыцыі заключаліся ў тым, што пры апытанні прадстаўнікамі міністэрства заснавальнікаў БХД праз тэлефанаванні, асабістыя сустрэчы і лісты не ўсе людзі правільна назвалі колькасць удзельнікаў сходаў, на якіх яны былі, колькасць вылучаных дэлегатаў і г.д.

Паводле словаў сустаршыні БХД **Паўла Севярынца**, метады, якія выкарыстоўваў Мін'юст у сваіх апытаннях, цяжка назваць законнымі. Напрыклад, такой формы, як пісьмовыя адказы на лісты з Мін'юсту – дакладна няма.

Міністэрства таксама выказала прэтэнзіі да таго, што Партыя нібыта не падала ўсе неабходныя для рэгістрацыі дакументы, у прыватнасці дакумент, які пацвярджае аплату дзяржпошліны за рэгістрацыю.

Аднак, як паведаміў сустаршыня БХД **Аляксей Шэін**, *«рахунак, на які былі пералічаныя грошы, быў узяты намі з афіцыйнага сайту Мін'юста».*

*– Калі прадстаўнік БХД **Дзяніс Садоўскі** нададўна наведаў міністэрства, каб даведацца, ці ўсё ў парадку з дакументамі, то яму пра рахунак увогуле ніхто нічога не сказаў. І да сённяшняга дня менавіта гэты рахунак для пералічэння дзяржаўнага мыта за рэгістрацыю вісіць на сайце Мін'юста. Ўзнікае пытанне: «А дзе нашы грошы?». Чаму ніхто нам не паведаміў пра змену рахунка?*

Павал Севярынец лічыць галоўным тое, што *«Партыя адбылася як факт».*

*– Яе прызнаюць у Еўропе, дэ-факта яе прызнаюць і прадстаўнікі ўлады. Варта зазначыць, што яшчэ да Ўстаноўчага з'езда менавіта па ініцыятыве актывістаў-стваральнікаў БХД Палата прадстаўнікоў прыняла змяненні ў закон аб рэкламе, у выніку якіх была забаронена рэклама магіі і акультызму ў СМІ. Для нас больш важнае прызнанне БХД беларускімі людзьмі, чым Міністэрствам юстыцыі. Зразумела, што пытанне рэгістрацыі партыі вырашалася не юрыдычна, а палітычна.*

Неўзабаве кіраўніцтва БХД правядзе нараду з удзелам рэгіянальных лідэраў, дзе будзе вырашана, як Партыя будзе дзейнічаць далей.

*– БХД як праводзіла свае кампаніі, так і будзе іх праводзіць. Рашэнне Мін'юста на гэта ніяк не паўплывае. Разгубленасці ў кіраўніцтва і актывістаў БХД – няма.*

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*



# МІНЮСТ «ПРЫПЫНІЎ НЕРЭГІСТРАЦЫЮ» БХД

**Паводле сустаршыні Партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя Аляксея Шэіна, Міністэрства юстыцыі «прыпыніла» сваё папярэдняе рашэньне пра нерэгістрацыю гэтай партыі. Нагадаем, статутны зьезд Партыі БХД адбыўся 21-га лютага. У Мін'юст былі пададзеныя дакумэнты на рэгістрацыю Партыі ў адпаведнасьці з законам, але 14 красавіка зь Міністэрства прыйшоў адмоўны адказ. Што паўплывала на новае рашэньне?**



**Аляксей Шэін:** «Са словаў прадстаўніка Мінюсту Яўгена Какушы, які якраз займаўся пытаньнямі рэгістрацыі БХД, было прыпыненае рашэньне пра нерэгістрацыю БХД. Пра гэта спадар Какуша паведаміў мне, патэлефанаваў за 5 хвілін да канца працоўнага дня. Чыноўнік спаслаўся на шматлікія звароты заснавальнікаў, аднак не ўдакладніў, якія гэта звароты. Мы на руках ня маем ніякіх дакумэнтаў, якія б пацьвярджалі гэтыя словы.

Заўтра зьбіраемся ісьці ў Мінюст на сустрэчу і размаўляць пра тое, што гэта азначае. Бо, наколькі нам вядома, бывае толькі тры варыянты адказу Мінюста ў падобнай справе: зарэгістраваць, адмовіць і даць час на выпраўленьне нейкіх дакумэнтаў. Але рашэньне пра «прыпыненьне адмовы ў рэгістрацыі» ня ўпісваецца ні ў адзін з гэтых варыянтаў.

Мы пакуль тлумачым гэта тым, што заўтра адбываецца сустрэча прадстаўнікоў апазыцыі са спадаром Карлам Шварцэнбэргам, міністрам замежных спраў Чэхіі, які прыехаў у Менск. Магчыма, у сувязі з гэтым візытам і прынятае такое рашэньне. А што будзе далей, паглядзім».

*Паводле http://www.svaboda.org/*

# БХД ПРАД'ЯВІЛА УЛЬТЫМАТУМ МІНІСТЭРСТВУ ЮСТЫЦЫІ

**Аргкамітэт па стварэнні «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» патрабуе ад Мінюста ў трохдзённы тэрмін даць адказ наконт сітуацыі з рэгістрацыяй партыі. Адпаведная заява была перададзеная сёння Адказным сакратаром БХД Дзянісам Садоўскім начальніку ўпраўлення грамадскіх аб'яднанняў міністэрства Алегу Сліжэўскаму.**

– 12 сакавіка БХД прадаставіла Міністэрству юстыцыі ўсе дакументы, якія неабходныя дзеля рэгістрацыі Партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя». Пасля адмовы ў рэгістрацыі, а потым прыпынення рашэння аб нерэгістрацыі БХД апынулася ў незразумелым, так бы мовіць, «падвешаным» стане, – паведаміў прэсавай службе БХД Дзяніс Садоўскі. – Мы патрабуем рэгістрацыі партыі, бо лічым адмову ў рэгістрацыі неабгрунтаванай. Калі кіраўніцтва БХД не атрымае адказу Мінюсту ў трохдзённы тэрмін, аргкамітэт будзе вырашаць гэтае пытанне ў судовым парадку.

Нагадаем, 15 красавіка Міністэрства юстыцыі адмовіла кіраўніцтву аргкамітэту па стварэнні «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» ў рэгістрацыі партыі.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*



# МІЛІЦЫЯ ПЕРАШКОДЗІЛА АКТЫВІСТАМ БХД НАКАРМІЦЬ ЖАБРАКОЎ



**23 красавіка ў 16.00 актывісты «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» планавалі правесці дабрачынную акцыю – раздаць харчы і вопратку бяздомным ля Свята-Духава сабору ў Мінску.**

Як распавёў прэсавай службе «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» прадстаўнік БХД Дзяніс Кобрусеў, за 15 хвілін да пачатку чарговай акцыі кампаніі «Наш адказ на крызіс» ля храму з'явілася міліцэйская машына.

*– Міліцыянты разагналі ўсіх бамжоў, што знаходзіліся ля сабору. Потым нам удалося адшукаць некаторых, каб даць ім ежы і вопраткі. Астатніх ці то запужалі, ці то некуды звезлі.*

Паводле Кобрусева, рэчы, якія засталіся ў хрысціянскіх дэмакратаў у выніку дзеянняў міліцыі, будуць перададзеныя ў сацыяльны аддзел Мінскай епархіі.

*– Мэта акцыі дабрачыннасці – даць іншым людзям прыклад таго, што дапамагчы бліжняму можа кожны – для гэтага не трэба мець шмат грошай,* – *зазначыў прадстаўнік БХД.*

# БХД ПАЧЫНАЕ АКЦЫЮ «НАШ АДКАЗ НА КРЫЗІС»

**21-25 красавіка больш чым у 30 гарадах Беларусі хрысьціянскія дэмакраты праводзяць сацыяльныя, дабрачынныя і палітычныя акцыі «Наш адказ на крызіс».**

Галоўная ідэя пяцідзённай кампаніі – заклікаць беларускае грамадства з’яднацца дзеля супрацьстаяння эканамічнаму крызісу. Тры прапановы БХД – эканомія, дабрачыннасць, лібералізацыя.

ЭКАНОМІЯ – падчас крызісу дзяржава і мясцовыя ўлады павінныя скарачаць лішнія выдаткі (на лядовыя палацы, АЭС, аграгарадкі, спэцслужбы, «Лініі Сталіна», вялізныя гулянкі і да т.п.) Крызіс – гэта выклік прапагандзе рэжыму.

ДАБРАЧЫННАСЬЦЬ – больш заможныя беларусы падчас крызісу маюць магчымасьць дапамагчы найменш абароненым: бедным, дзецям, інвалідам, сіротам. Крызіс – гэта выклік нам як вернікам: ці міласэрныя мы? ці любім бліжняга?

ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯ – зьніжэньне падаткаў, вызваленьне прадпрымальніцкай ініцыятывы, скарачэньне бю-



ракратыі – і гарантыі недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці.

У праграме кампаніі ў розных гарадах Беларусі – збор подпісаў, канферэнцыі, дабрачынныя мерапрыемствы, пікеты, флэш-мобы, прэзентацыя эканамічнай праграмы БХД, распаўсюд хрысціянскі-дэмакратычных выданняў – газэтаў «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» і «Крыніца».

# АКЦЫЯ БХД «НАШ АДКАЗ НА КРЫЗІС» ПРАХОДЗІЦЬ ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ

**Да кампаніі далучыліся і рэгіёны. Так, прайшлі мерапрыемствы ў Кобрыне, Нясвіжы і Мазыры. У Віцебску ўлады адмовілі ў правядзенні пікетаў.**

Як паведаміў прэсавай службе «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» сустаршыня аргкамітэту па стварэнні БХД **Георгій Дзмітрук**, у мінулую нядзелю у Кобрыне прайшло святочнае мерапрыестcovа, у якім удзельнічала каля 70 чалавек.

*– Акрамя іншага, мы абмеркавалі і эканамічную сітуацыю ў краіне, шляхі выхаду з крызісу. Сустрэчу можна лічыць пачаткам працы рэгіянальных актывістаў БХД у межах кампаніі «Наш адказ на крызіс».*




У Нясвіжы прадстаўніца БХД **Наста Азарка** арганізавала распаўсюд інфармацыйных бюлетэняў БХД, у якіх вядзецца пра наступствы эканамічнага крызісу і захады, якія дапамогуць яго пераадолець. Акрамя гэтага, Азарка вядзе інфармацыйную працу ў горадзе супраць алкагалізму і яго наступстваў.

Мазырскі актывіст БХД **Павал Наздра** 21 красавіка накіраваў антыкрызісны зварот у Адміністрацыю прэзідэнта, у якім прапануецца скараціць ідэалагічны апарат, ліквідаваць пасады ідэалагічных кіраўнікоў, скасаваць Камітэт па справах моладзі, перавесці БРСМ на самафінансаванне. Наздра таксама прапануе адмяніць ільготы дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, абмежаваць максімальны заробак кіраўнікам прадпрыемстваў, спыніць рэпрэсіі супраць грамадзянскіх актывісітаў, бо гэта выклікае недавер у замежных інвестараў.

*– Я пазначыў, што калі адказ будзе не станоўчы, то прашу аргументаваць адмову па кожнаму пункту зварота.*

Прадстаўніцы БХД **Таццяне Севярынец** 21 красавіка віцебскімі ўладамі было адмоўлена ў правядзенні пяці пікетаў у межах кампаніі «Наш адказ на крызіс». Чыноўнікі матывавалі гэта тым, што пікеты планавалася правесці ў месцах, не прадугледжаных для гэтага гарвыканкамам. Як заўжды, прадстаўнікі «вертыкалі» прапанаваліісці туды, дзе звычайна выгульваюць сабак. Але, як зазначыў сустаршыня БХД **Павал Севярынец**, адмова Віцебскага гарвыканкаму не спыніць правядзенні кампаніі ў гэтым горадзе.

*www.bchd.info*



БХД

# ДМИТРУК
## Георгий Романович

Дмитрук Георгий Романович, 41 год, беларус, экономист. Родился в многодетной семье (7 детей) в городе Кобрине. Мать – врач-стоматолог, отец -столяр. В 1985 году закончил СШ № 7 г. Кобрина. Поступил и успешно закончил Витебское МУ по специальности «зубной техник». Был направлен по распределению в зону, пораженную аварией на ЧАЭС (г. Столин). В 1987-1989 гг. – срочная служба в СА в Дальневосточном ВО. По возвращению в родной город Кобрин работал в стоматологической поликлинике.

С 1992 года возглавлял внешнеэкономический отдел Межрегионального производственно-коммерческого объединения «АВИПРОМ». С 1993 года работал генеральным директором производственно-коммерческой фирмы ООО «ОМЕГА». С 2001 года – генеральный директор ИП «ОМЕГА СЕРВИС» корпорации «Текстайл Омега Инк». С 2005 года-директор Иностранного частного лечебно-оздоровительного унитарного предприятия «БелГихон Юнайтед». Экономист. Закончил Беларуский Государственный Экономический Университет, факультет «Международные Экономические отношения».

Председатель Республиканского Общественного Объединения «Христианская Деловая Инициатива». Член Совета Европейской ассоциации «ЕВРОПАРТНЕРЫ» (Швейцария) и Всемирной ассоциации поддержки предпринимательства «СВМС». Участник экономических форумов в Швеции, Голландии, Италии, Германии. Свободно владеет английским языком. Опытный руководитель. Общественный деятель.

Христианин. Женат. Имеет пятерых детей. Постоянно проживает в городе Кобрине.



# РЫМАШЭЎСКІ Віталь Анатольевіч

1975 года нараджэньня. Беларус. Жыхар Мінска. Адукацыя вышэйшая, інжынер-будаўнік. Вядучы эканаміст кампаніі «Беларусь Капітал Менеджмент». Жанаты. Жыве ў Фрунзенскім раёне.

Рымашэўскі Віталь Анатольевіч нарадзіўся 3 сакавіка 1975 года у сям'і. рабочых. Бацька – будаўнік, маці – інжынер па транспарце. У 1992 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў на будаўнічы факультэт Беларускага Нацыянальнага Тэхнічнага Універсітэту (былы БПІ, БДПА). Паспяхова скончыў універсітэт у 1997 годзе. Пасля навучання працаваў па спецыяльнасці, пачынаючы ад шэраговага супрацоўніка да і сканчаючы начальнікам тэхнічнага аддзела СП «ІНТЭР-ТРАНК». Зараз працуе вядучым эканамістам кіруючай кампаніі «Беларусь Капітал Менеджмент».

Зьяўляючыся актыўным чалавекам, якому неабыякавыя праблемы краіны, праблемы людзей, якія побач зь ім, прыняў дзейсны ўдзел у грамадскай працы. З 1996 года стаў чальцом Каардынацыйнай Рады «Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў». Актыўна займаўся праблемамі моладзі, моладзевай палітыкі.

У 2002-2004 гадах – чалец Прэзідыюму Беларускай нацыянальнай рады моладзевых і дзіцячых грамадскіх арганізацыяў «Рада».

Зьяўляецца адным з распрацоўшчыкаў канцэпцыі новай моладзевай палітыкі Беларусі.

Прафесійна займаецца палітыкай з 1996 года.

У 1999 годзе навучаўся ў Германіі на курсах Вышэйшай школы дзяржаўнага кіравання ў інстытуце «Саюз грамадскага кіравання», вывучаў эканамічнае і палітычнае ўладкаванне ФРГ.

Праваслаўны хрысціянін, з 2002 – 2005 г – студэнт свята-Філарэтаўскага праваслаўна-хрысціянскага інстытута (Масква).

Адзін з распрацоўшчыкаў праекта «У абарону свабоды сумлення і веравызнання ў Беларусі», які праводзіўся ў 2006-2007 г, у межах якога было сабрана больш за 50 тыс. подпісаў у абарону хрысціянаў. На дадзены момант вядуцца перамовы па правядзенні слуханняў у Еўрапейскім Парламенце з нагоды парушэння права на свабоду сумлення ў Беларусі.

У 2005 – 2006 г. каардынатар перадвыбарчай кампаніі А. Мілінкевіча па Фрунзенскім раёне г. Мінска.

Сустаршыня БХД. Кіраўнік Менскай Гарадзкой Арганізацыі Партыі.

# СКАРАБАГАТЫ Леанід Іванавіч



**Нарадзіўся 17 лістапада 1964 г. ў Мінску. Скончыў сярэднюю школу № 116. Пасля службы ў Узброенных сілах у 1984 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Пасля заканчэння інстытуту працаваў у розных дзяржаўных установах. З 1993 года займаеца прыватным бізнесам (www.FRONT.BY). Рэдактар сайта Курасоўшчыны (www.K.MIНСК.INFO). Жанаты, мае сем дзяцей. Жыве ў Мінску на вул. Ландара.**

**НЯМА ЎЛАДЫ НЕ АД БОГА.**

Шаноўныя сябры, сёстры і браты!

Некалькі словаў пра нашу дзяржаву, уладу і ролю хрысціянаў у ёй.

Пачну з вельмі важнай інфармацыі, якую нам неабходна данесці да нашых суайчыннікаў у першую чаргу.

Як сказана ў Святым Пісанні, «няма ўлады не ад Бога; а існуючыя ўлады ад Бога ўстаноўлены. Таму той, хто супрацівіцца ўладзе, супрацівіцца Божаму пастанаўленню; а тыя, што супраціваяцца, самі наклічуць на сябе асуджэнне». (Пасланне Св. Паўла да Рымлянаў 13:1)

Як абвяшчае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь: «Статья 3. Единственным источником государственной власти в Республике Беларусь является народ.

Статья 21. Обеспечение прав и свобод граждан Республики Беларусь является высшей целью государства».

Гэта вельмі важна разумець нам самім, і гаварыць пра гэта іншым. Такі светапогляд трэба фарміраваць у нашых дзяцей ад самага нараджэння.

Мы не пешкі, не нулі, мы не быдла, не насельніцтва і не электарат. Мы людзі, мы гаспадары нашай зямлі і нашай краіны. Мы – адзіная законная ўлада, і гэтая ўлада ад Самога Госпада Бога ўстаноўлена.

У Евангеллі Матфея 20:25 напісана (Сінадальны рускі тэкст): «Вы знаете, что князья народов господствуют над ними, и вельможи властвуют ими; но между вами да не будет так: а кто хочет между вами быть большим, да будет вам слугою;»

У гэтым і ёсць галоўны запавет кіраўніку. Як казаў, Кастусь Каліноўскі, «Не народ для ўрада, а урад для народа». Ці як кажа пастар Барыс Чарнаглаз: «Сапраўдны лідэр не сядае есці сам, пакуль не накормлены ўсе людзі».

Самае каштоўнае, што ў нас ёсць – гэта людзі. І мы павінны стварыць ім усе ўмовы для плённай працы і для годнага жыцця. Людзей трэба берагчы, абараняць, дапамагаць ім расці. Калі кіраўнік любога ўзроўню не клапоціцца пра сваіх падначаленых – ён не можа быць кіраўніком.

У Евангеллі Яна 13:35 напісана (Сінадальны рускі тэкст): «По тому узнают все, что вы Мои ученики, если будете иметь любовь между собою». Гэта таксама адзін з галоўных прыярытэтаў: каб нам быць моцнымі, нам трэба быць дружнымі. Памятаеце, як дзядуля ў казцы вучыў сваіх сыноў? Адзін дубчык можна зламаць, але звязку – ніколі. Таму нам трэба дапамагаць адзін аднаму, падтрымліваць адзін аднаго, трымацца разам. Як казаў Св. Павел, ствараць як мага больш узаемна скрапляючых сувязяў.

Гэтага найбольш і баяцца нашыя ворагі – нашага адзінства. Як паказвае прыклад іншых арганізацый, спецслужбы скарыстоўваюць слабасці кіраўнікоў, каб ствараць канфлікты і раздзяленні, і часам робяць гэта пасьпяхова. Таму прадухіленне канфліктаў і вырашэнне праблемаў узаемаадносінаў – таксама адзін з прыярытэтных напрамкаў працы. Па-першае, нашым кіраўнікам (і не толькі ім, але і ўсім нам) трэба пазбаўляцца ад слабасцяў, каб не было у нас такіх струн, на якіх можа нехта сыграць. Па другое, нам трэба стварыць эфектыўную сістэму вырашэння канфліктных сітуацый, эфектыўны спосаб мірыць канфліктуючыя бакі. Калі раптам і узнік нейкі канфлікт, трэба памірыць людзей хутка і без страт, як вучыць Божае Слова.

Таксама, у ідэале, кожны павінен ведаць: калі вораг дакранаецца да аднаго з нас, ён будзе мець справу з усёй арганізацыяй. Мы сваіх сяброў у крыўду не даем.

Калі мы будзем здольныя гэта зрабіць, то мы будзем здольныя павесці за сабой людзей, мы будзем здоль-



*Дарагія сябры! Мяне завуць Воля. Радая вітаць вас на нашай літаратурнай старонцы «Люблю Беларусь», старонцы, прысвечанай Бацькаўшчыне, шчырасці і дабрыні. Беларусы, заклікаю вас марыць, спадзявацца, разважаць, спяваць, думаць, любіць і верыць на гэтай старонцы. Чакаю вашых лістоў, буду вельмі ўдзячная.*

*Лісты дасылайце на адрас:* **г. Мінск, інд.220123, п/с 324,**
*e-mail:* **bchd.info@gmail.com**
*з пазнакай «Для Волі»*

# Верце ў Бога. Любіце Беларусь

Вера… Што можа мацней аб'яднаць людзей, даць надзею і ўпэўненасць? Перамагчы злосць і пыху, роспач і боль, гора і несправядлівасць… Перамагчы там, дзе, здавалася б, немагчыма… Даць сэрцу моцы і любові… Толькі вера. Вера самаахвярная і бяздонная… Вера ўпэўненая і глыбокая!

А калі побач з табою верыць яшчэ адно сэрца, то ты шчаслівы, ты не адзін! Калі верыш цалкам і аддана, калі родныя, блізкія і сябры вераць з табою – разам вы тая сіла, якая пераможа. Толькі трэба верыць! Чуеце? Верыць! Верыць аддана і да канца… Верыць! І перамагаць! Часам здаецца, што мой крыж невыносны і ў жыцці больш выпрабаванняў, чым у іншых, а ж гэта значыць, што маё сэрца больш моцнае – яно пераможа! Бог ведае пра нас ўсё: нашу моц і веру, нашы сілы і цярплівасць, ён ведае з якімі людзьмі нас сутыкнуць, каб мы сталі лепшымі… Нам толькі трэба ўмець гэта ўбачыць і адчуць сэрцам. З кожнай сустрэчы, з кожнага дня вучыцца ставіцца лепшымі, выракацца сваіх памылак. Вучыцца любіць сваіх блізкіх, краіну, чалавецтва… Вучыцца незямной, невідочнай любові ў кожным позірку і ва ўсіх учынках. Любоў знішчыць страх і ўмацуе веру. Вера – гэта прамень, а любоў – сонца. Любоў ніколі не здаецца. Верце – і атрымаеце любоў!

*Воля*

# Падарунак хроснай маці



Хросная маці аддае мне свой падарунак.
Гэта люстэрка. Я спрабую ўгледзець у ім сябе,
Але дарэмна. Яго паверхня зморшчаная і цьмяная,
Быццам чыясьці далонь.

– У ім жыве Бог, – кажа хросная маці. –
І некалі ты Яго ўбачыш…

Здараецца, люстэрка яснее, зморшчыны
Разгладжваюцца – і тады мне відаць
То птушка, якая ляціць, то паставы людзей,
То абрысы незразумелых людзей,

Я губляюся ў меркаваннях: магчыма,
Я ўжо бачу Бога, ды толькі не ведаю,
Што гэта Ён.

*Алесь Разанаў*

# Хрыстос васкрос!..

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасць,
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей.



Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна святая думка
З канца ў канец, як свет вялік.

Хрыстос васкрос!.. – пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песні аб прадвесні,
Забыўшы ўсё ўсёй душой.

Хрыстос васкрос!.. – пяе сіротка,
Слуга, таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос!.. – пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ўціхамолку куюць путы
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!.. К табе, о Божа,
І я ў дзень гэты просьбу шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ўваскрэсне к вольнаму жыццю!

*Янка Купала*

# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ФЭСТ ЭКСКУРСАВОДАЎ

**Вось ужо 25 год 18 красавіка ва ўсім свеце прынята звяртаць увагі на значнасць, велічнасць, але ў той жа час крохкасць помнікаў культуры, гісторыі і архітэктуры. Ініцыятарам гэтага свята з 1983 г. выступіла Міжнародная Рада па Помніках і Мясцінах (ICOMOS).**



У гэтым годзе Беларускі камітэт ІКАМОС разам з маладзёвым ГА «Гісторыка» і таварыствам «ЭТНА» (БДУКіМ) вырашылі адзначыць гэтае свята досыць незвычайным чынам: упершыню ў Беларусі быў арганізаваны «Фэст экскурсаводаў». Мэта «Фэста» – наладзіць як мага больш экскурсій ў Менску, а таксама (па магчымасці) ў іншых гарадах Беларусі.

За 2 дні было праведзена 17 экскурсій (!!!) ў Менску і яшчэ з дзесятак па ўсёй Беларусі. Дзякуючы абвесткам, якія расклейвалі валанцёры ў раёнах правядзення экскурсій – на кожную з іх прыйшло вельмі шмат людзей – ад 20 да 70, а ў Музеі Валуноў – ажно 120 чалавек!

Што самае прыемнае, на экскурсіі прыйшлі сапраўды мясцовыя жыхары гэтых раёнаў: і слухалі, і задавалі пытанні, і часта выпраўлялі і ўдакладнялі экскурсаводаў (што асабліва прыемна).

Будзем спадзявацца, што гэтыя экскурсіі сапраўды прымусяць людзей па-іншаму, з цікавасцю зірнуць на раёны і вуліцы, дзе яны жывуць!

*Сьцяпан Емельянаў*

# Д В У



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***
***Прапануем Вашай увазе новую рубрыку «Крыніцы» – ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД будуць спрачацца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне. Пераможцу вызначыце Вы!***



## Алесь Спіцын:
**паэт і выкладчык**
## «Атамная энэргетыка не патрэбная Беларусі увогуле!»

Я праціўнік атамнай энэргетыкі як гэткай. А для Беларусі, дзе стан здароўя людзей падарваны паслячарнобыльскім радыёактыўным забруджаннем – гэта проста неапраўданая авантура. Агульнавядома, што нават у штатным рэжыме працы (без аварый) самыя АЭС штогод ствараюць забруджанні, актыўнасць якіх складе ад 330 да 3400 мегабеккерэляў. Гэта пагражае жыхарам прылеглых да АЭС тэрыторый дозай каля 740 чалавека-бэр. Прычым уплыў малых і звышмалых дозаў на здароўе чалавека застаецца маладаследваным.

Еўропа ўжо адмаўляецца ад выкарыстання АЭС. Напрыклад, у Італіі правялі агульнанацыянальны рэферэндум па гэтым пытанні – і грамадзяне выказалісь за адмову ад выкарыстання атамнай энэргетыкі. Падобныя крокі робяць ва ўсіх краінах Еўропы. Навошта нам пачынаць рабіць тое, ад чаго іншыя ужо адмаўляюцца?

Есць меркаванне, што будаўніцтва АЭС паспрыяе развіццю Беларусі, яе незалежнасці. Але ж яшчэ у часы будавання першых АЭС у свеце ЦРУ паведамляла амерыканскаму кіраўніцтву, што будаўніцтва АЭС зніжае бяспеку краіны, бо у выпадку вайны менавіта АЭС найпершыя і найлепшыя кропкі бамбёжак.

Будаўніцтва АЭС на Астравеччыне не толькі створыць пагрозу для аднаго з самых чыстых, культурна і прыродна багатых рэгіёнаў, але і зацісне беларускі народ у радыёактыўныя ціскі. Нашыя лякарні і без таго перапоўненыя хворымі на захворванні, індуцыраваныя рознымі дозамі іанізуючай радыяцыі. Калі ўкласці ўсе тыя грошы, якія могуць пайсці на будаўніцтва АЭС, у развіццё тэхналогій альтэрнатыўнай энэргетыкі, то ў сукупнасці з інтэлектуальным патэнцыялам айчыннай навукі яны маглі б прынесці куды большы плён.

Новая атамная электрастанцыя не дасць бяспечных працоўных месцаў, на чым найбольш засяроджваць увагу прыхільнікі будаўніцтва АЭС. Гэта зразумела, што мясцовыя жыхары і штатныя працоўныя станцыі будуць у любым разе атрымоўваць дозы радыяцыі. Пытанне толькі, як хутка яны дайдуць да «мяжы» і як гэта паўплывае на наступныя пакаленні. Атрымоўваецца, чалавек працуе, зарабляе добрыя грошы…а пасля яны яму нават не спатрэбяцца? Здароўе не купіш!

А мясцовыя альтэрнатыўныя электрастанцыі дадуць нашмат больш небяспечных працоўных месцаў. Да таго праца будзе не толькі для жыхароў Астраўца (у выпадку будаўніцтва АЭС там), а электрастанцыі і, зразумела, працоўныя месцы будуць знаходзіцца па усей краіне! Беларусь насамрэч выпрацоўвае больш энэргіі, чым можа выкарыстаць, таму АЭС не будзе з'яўляцца крыніцай энэргіі, якой быццам бы не хапае краіне. У нас не хапае не энэргіі, а грошаў. І будаўніцтва атамнай электрастанціі мы проста не можам сабе дазволіць.

Я лічу, што атамная энэргетыка не патрэбная Беларусі увогуле. Есць прыклад Чарнобылю і яго наступстваў. Я не магу дапусціць забруджвання самага чыстага рэгіену Беларусі і краіны увогуле. Як грамадзянін Беларусі, я не магу дапусціць такога злачынства супраць маей зямлі, супраць маіх суайчыннікаў!

# Б О Й



У першым чвэрцьфінальным Двубоі, прысвечаным змаганьню з алькагалізмам, перамогу з лікам 97 : 85 атрымаў прыхільнік ЗАБАРАНЯЛЬНЫХ МЕРАЎ ЛЕАНІД СКАРАБАГАТЫ.

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон – +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас). Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага галасаваньня выходзіць у наступны тур!***
***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***

## Алесь Круткін:
**гісторык, маладзёвы лідэр**

## «Беларусі неабходна уласная атамная электрастанцыя»



Па першае есць шмат станоўчых прыкладаў. Усяго 2 -3 разы за гісторыю на АЭС былі сур’езныя аварыі кшталту выбуху на Чарнобыльскай АЭС, і тое з-за таго, што там выкарыстоўвалась састарэлая тэхніка.

Але астатнія сотні атамных электрастанцый працуюць і даюць плён. У Фінляндыі, Францыі, Галандыі атамная энэргетыка – адна з вядучых галін энэргетычнай прамысловасці. Дзякуючы АЭС многія грамадзяне гэтых краін маюць працоўныя месцы і сацыяльныя гарантыі, а дзяржава – незалежная ад знешніх паставак газу ці іншых крыніц энэргіі.

Перад Беларусьсю стаіць важнае пытанне – энергетычная залежнасць ад Расеі. Падзеі апошніх тыдняў ва Украіне і Малдове даюць яскравае уяўленне пра тое, што можа стацца, калі дзяржава набывае рэсурсы толькі у адной краіне. Тое ж можа стацца і з Беларусьсю. А паліва для атамнай электрастанцыі можна набываць і на некаторы час наперад... Пакуль мы ня маем уласных крыніц энэргетыкі – мы ня маем незалежнасці! Краіна у першую чаргу незалежная тады, калі яна незалежная эканамічна. Пакуль мы маем адзіную крыніцу энэргіі ў Расейскай Федэрацыі, мы абавязаныя рабіць палітычныя саступкі, каб атрымаць хоць нейкія зніжкі на газ...

Есць меркаванні, што з-за таго, што беларускую АЭС будуць будаваць расейцы, мы будзем ад іх залежаць. Я лічу, што не. Расейцы будуюць нам атамную электрастанцыю, але яна цалкам наша, беларуская. На мой погляд, няма розніцы хто яе будуе, хоць немцы, хоць галандцы, хоць расейцы... А паліва мы можам набываць з некалькіх крыніц.

Увогуле, я лічу, што краіне недастаткова адной АЭС, трэба некалькі. Але з-за фінансавага становішча, мы, на жаль не можам без крэдыту пабудаваць нават адну атамную электрастанцыю, а тым больш некалькі. За атамнай энэргетыкай – будучыня.

Таксама есць шмат супраціўнікаў будаўніцтва Беларускай АЭС на Астравеччыне. На гэта мае меркаванне такое: па-першае, магільнік для адходаў будзе у Сібіры, а сама па сабе станцыя не дасць большай шкоды, чым размяшчаная побач Ігналінская АЭС, ахоўных тэрыторый, наколькі я ведаю у рэгіёне няма. Мы не павінны выбіраць пляцоўку па прынцыпе больш забруджанная ці менш забруджанная. Наша галоўная задача пабудаваць якасную АЭС. І што, калі Астравец – адзіная дарэчная пляцоўка? Да таго ж мясцовыя жыхары не супраць – дзякуючы будаўніцтву АЭС з’яўляюцца новыя высокааплочваемыя працоўныя месцы, ужо сёння бачна, як паляпшаецца інфраструктура горада.

Я не лічу, што калі у Беларусі будзе пабудавана атамная электрастанцыя, Беларусь стане ядзернай дзяржавай, як кажуць некаторыя супраціўнікі будаўніцтва АЭС. Ядзерная дзяржава – дзяржава, у якой есць ядзерная зброя, напрыклад Расія, ЗША... Добры прыклад Фінляндыі, якая таксама як і Беларусь, мае статус безядзернай дзяржавы, але у ёй паспяхова працуюць АЭС.

Я упэўнены, што ў сённяшніх умовах Беларусі неабходна уласная атамная электрастанцыя. Гэта адна з умоў эканамічнай і палітычнай незалежнасці Беларусі. І сумны прыклад мінуўшчыны з ЧАЭС – не аргумант супраць будавання АЭС у Беларусі сення!

## Курсы беларускай мовы

Курс беларускай мовы разьлічаны на тое, каб удасканаліць сваю мову, найперш гутарковую. Гэта цудоўны шанец пачаць размаўляць на родай мове для тых, хто даўно хоча, але саромеецца ці сумняецца ў дастатквым узроўні яе веданьня. Курс разьлічаны найперш на хрысьціянаў, а таксама на моладзь.

**Заняткі праходзяць па панядзелках на сябдзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13), пачатак ў 18-30.і па сярэдах на сядзібе БНФ (вул. Машэрава,8) пачатак 18-30 Кантактныя тэлефоны: 8-029-8105001(Алена).**

## Курсы гісторыі хрысьціянства на Беларусі

Гэта ўнікальны пазаканфесійны курс, разьлічаны на хрысьціянаў розных канфесіяў, які разглядае гісторыю хрысьціянства на Беларусі ў кантэксьце духоўных рухаў, гэта значыць як Дух Гасподні дзейнічаў у сваёй Царкве на нашай зямлі, не зважаючы на Яе канфесійныя межы.

**Заняткі паводзяцца па панядзелках на сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13), пачатак ў 18-30 і па серадах на сядзібе БНФ (вул. Машэрава,8) пачатак 18-30 Кантактныя тэлефоны: 8-029-8105001(Алена).**

## «Беларускі хрысьціянскі хіт»

Аккурат да Вялікдзеня выходзіць чарговы дыск з серыі Беларускі хрысьціянскі хіт пад назвай «Хрыстос уваскрос» – чацвертая зборка найлепшых беларускамоўных хрысьціянскіх сьпеваў, гэтым разам прысьвечаных сьвяту Уваскрасення Хрыстовага. Адабраныя паводле строгіх крытэраў песьні прайшлі ратацыю ў хрысьціянскіх фокус-групах (адпаведна, праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, поўнаэвангельскай – і г.д.) – і вернікі самі вызначылі найлепшыя сьпевы. Найбольш хітовымі выканаўцамі слухачы прызналі гурты «Тэзаўрус», «Псальмяры», «DVA», «Небасхіл», «Кадаш». Сярод выканаўцаў – таксама Алеся Унукоўская, барды Андрэй Мельнікаў, Вальжына Цярэшчанка і Інэса Леаданская. Пачынаюцца ўсе дыскі «Беларускага Хрысьціянскага Хіта» гімнам «Магутны Божа»; завяршаецца – сьпеўнай малітвай «Ойча наш». Рыхтуюцца да выданьня таксама іншыя дыскі гэтай серыі , «Беларускі Хрысьціянскі Рок», «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт» і «Беларускі Літургічны Сьпеў», «Люблю Беларусь». Наконт усіх прапановаў на гэтыя складанкі, а таксама па замовы першых 3-х дыскаў можна зьвяртацца па тэлефонах: **8-029-861-62-28, 8-029-656-00-64 (Валянціна).**

## «Шоў Беларушчыны»

Гэта беларуская па форме, хрысьціянская па зьмесьце дынамічная віктарына для школьнікаў і навучэнцаў з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі з беларускімі хрысьціянскімі хітамі. Віктарына можа праводзіцца ў любой навучальнай установе як пазакласны ўрок. Пераможцы віктарыны атрымліваюць цудоўныя прызы – кнігі і дыскі.

**Віктарыну можна замовіць па тэлефоне: 8-029-7653692 (Ірына).**

*Падрыхтавала Ірына Губская*

# ДАПАМАГЧЫ ПАЦЯРПЕЛЫМ АД РЭПРЭСІЯЎ!

Апошнія некалькі месяцаў актывісты «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» і іншых партыяў і арганізацыяў не могуць атрымаць дапамогі на тое, каб кампен саваць несправядлівыя штрафы, атрыманыя пасля беззаконых прысудаў.

Вось ужо дзевяць месяцаў прадстаўнікі «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» ў Гомелі вымушаныя сустракацца з судовымі выканаўцамі, якія апісваюць маёмасць, бо агульная сума штрафаў гомельскіх хрысьціянскіх дэмакратаў перавысіла 20 мільёнаў рублёў. Падобная сітуацыя складаецца ў Полацку, Мінску і Нясвіжы.

Праваабарончыя арганізацыі, на жаль, не могуць даць рады. Таму заснавальнікі БХД адчынілі банкаўскія рахункі ў Мінску і Полацку і заклікаюць беларусаў падтрымаць пацярпелых у змаганні з рэжымам грашыма па меры сваіх магчымасцяў.

«Дарагія беларусы! У нашай краіне – суды несправядлівыя і беззаконне квітнее. У нас вельмі шмат людзей, якія змагаюцца за свабоду і спрвядлівасць, але пры гэтым вымушаныя жыць пад пагрозай канфіскацыі маёмасці з-за нявыплачаных штрафаў. Мы просім вас ахвяраваць сродкі для гэтых людзей. У некаторых з іх ёсць маленькія дзеці, некаторым пагражаюць высяленнем з жытла», – звярнуўся да неабыякавых людзей сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Павал Севярынец.





*Кастусь Жукоўскі з Гомеля*

Рэквізіты банкаўскага рахунку:

**ААТ «АСБ «Беларусбанк» аддзяленне № 112 філіяла 529 «Белсувязь», г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 91, код 720, субкарэспандэнцкі рахунак 6100007209062, л/с 01051293**

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр выдавецкіх ініцыятыў
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Аб’ём: 12 палосаў А4 Падпісана ў друк 26 красавіка 2009
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.